# Каталіцкія НАВІНЫ

ВЫДАННЕ
МІНСКА–МАГІЛЁЎСКАЙ
АРХІДЫЯЦЭЗІІ
РЫМА–КАТАЛІЦКАГА
КАСЦЁЛА

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК



Нумар прысвечаны
рэкансэкрацыі
Мінскай катэдры
Імя Найсвяцейшай
Марыі Панны







Мінская катэдра ў розныя часы свайго існавання.



ГІСТОРЫЯ КАСЦЁЛА

**31 ліпеня 1700** –
заснаванне касцёла айцамі езуітамі.

**16 сакавіка 1710** –
кансэкрацыя касцёла, якую здзейсніў Віленскі біскуп Канстанты Казімір Бжастоўскі.

**1773** –
касцёл закону езуітаў стаў парафіяльным.

**28 красавіка 1798** –
святыні нададзена годнасць Катэдральнага касцёла.

**3 красавіка 1905** –
пэўны час пробашчам Катэдры быў ксёндз Зыгмунт Лазінскі.

**1948** –
касцёл адабраны ў вернікаў і перададзены пад "Дом фізкультуры".

**1951** –
касцёл цалкам спустошаны і перабудаваны.

**9 снежня 1993** –
паводле пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь будынак Мінскай катэдры быў вернуты католікам.

**5 лютага 1994** –
адбылося папярэдняе пасвячэнне святыні і на яе франтоне быў устаноўлены крыж.

**З 16 жніўня 1994 да 16 кастрычніка 1997** –
вяліся рэстаўрацыйныя работы.

**28 верасня 1996** –
у Мінскай катэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны адбылася інаугурацыя Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі.

**21 кастрычніка 1997** –
рэкансэкрацыя Мінскай катэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны.





# ПРЫВІТАЛЬНАЕ СЛОВА
## Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Свёнтка

Дзякуючы трохгадовым інтэнсіўным і прафесійным рэстаўрацыйным працам, Катэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны ў Мінску, страшэнна знішчаны і перабудаваны ў гады савецкага рэжыму, цалкам вярнуў сваю годнасць Дому Божага і аблічча архітэктурнага помніка. І вось настаў дзень урачыстай рэкансэкрацыі гэтай аднаўленай святыні.

Дазвольце мне прывітаць дастойных гасцей і ўдзельнікаў гэтай урачыстасці.

Сардэчна вітаю Яго Эмінэнцыю ксяндза кардынала Эдмунда Казіміра Шоку – спецыяльнага Пасланніка Святога Айца Яна Паўла Другога на рэкансэкрацыю Мінскай катэдры. Вітаю Іх Эмінэнцый ксяндзоў кардыналаў: Юзэфа Глемпа, Прымаса Польшчы, і Гэнрыка Гульбіновіча, Мітрапаліта Вроцлаўскага. Вітаю Яго Эксцэленцыю ксяндза арцыбіскупа Дамініка Грушоўскага, Апостальскага нунцыя ў Рэспубліцы Беларусь. Вітаю Іх Эксцэленцый арцыбіскупаў і біскупаў: Мар'яна Яворскага, Мітрапаліта Львоўскага, Яніса Пуятса, Мітрапаліта Рыжскага, Тадэвуша Кандрусевіча, Апостальскага Адміністратара для каталікаў еўрапейскай часткі Расіі, Паулё Джыле, біскупа суфрагана дыяцэзіі Альбано, прадстаўніка Яго Эмінэнцыі кардынала Каміллё Руіні, Генеральнага Вікарыя Яго Святасці Рымскай дыяцэзіі, Аляксандра Кашкевіча, біскупа Гродзенскага, Юозаса Тунайціса, біскупа суфрагана Віленскага, Маркіяна Трафімяка, біскупа суфрагана Львоўскай дыяцэзіі. Вітаю вялебнага архімандрыта Сергія Гаека, Апостальскага Візітатара Грэка-Каталіцкай Царквы на Беларусі. Вітаю прадстаўніка Яго Высокапраасвяшчэнства, Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха Усяе Беларусі, протаерэя Генадзя Дзічкоўскага. Вітаю дастойнага прадстаўніка дзяржаўнай улады Білыка Аляксандра Мікалаевіча. Вітаю прадстаўнікоў Замойскай Майстэрні Кансэрвацыі Помнікаў "REHABIT", а таксама прадстаўнікоў інспекцыі па ахове помнікаў гісторыі і культуры. Вітаю паважаных святароў, шаноўных сясцёр, умілаваны Люд Божы.

А цяпер – слова Яго Эмінэнцыі ксяндзу кардыналу Эдмунду Казімежу Шоку, спецыяльнаму Пасланніку Святога Айца Яна Паўла Другога.

**Высокашаноўнаму Брату Яго Эмінэнцыі**
**Кардыналу КАЗІМІРУ СВЁНТЭКУ,**
**Арцыбіскупу Мінска-Магілёўскаму**



Я рады магчымасці быць прысутным, праз пасрэдніцтва Яго Эмінэнцыі Кардынала Эдмунда Шокі, на цырымоніі пераасвячэння Мінскай Катэдры і, такім чынам, падзяліць радасць вернікаў Беларусі.

Гэтая святыня, прысвечаная Езусу, Марыі і Святой Барбары, будаўніцтва якой пачалося ў 1700 годзе намаганнямі айцоў Езуітаў, пасля роспуску Таварыства Езусавага пераўтварылася ў парафіяльны касцёл. У 1798 годзе, разам са стварэннем Мінскай дыяцэзіі, была выбрана Катэдрай новае царкоўнае акругі, першым біскупам якой быў монс. Якуб Дадэрка.

У 1951 годзе, пад час камуністычнага рэжыму, гэтая святыня была зачыненая, канфіскаваная і да таго ж ператвораная ў дом фізкультуры. Катэдра, як і шмат іншых святынь гэтай любай мне нацыі, зазнала перыяд зганьбавання, пад час якога, паводле таямнічай задумы Провіду, яна не пераставала быць сымвалічным заклікам да Божага народу на працягу доўгіх гадоў праследаванняў.

Урэшце, у 1994 годзе, старажытная Катэдра была вернутая Каталіцкай грамадзе, і Вы, Ваша Эмінэнцыя, неадкладна пачалі рэстаўрацыйныя работы. Было неабходна правесці глыбокую і не танную працу, каб прывесці будынак, наколькі гэта магчыма, да першапачатковай прыгажосці. Руплівы клопат, які Вы тут праявілі, пры падтрымцы вернікаў і дабрадзеяў, зрабілі магчымым шчаслівае завяршэнне гэтага пачынання. Як жа, згадваючы падобнае, не прыпомніць выпрабаванні нашых Айцоў Старога Запавету: выгнаннікаў Сыёну, адлучаных ад магчымасці адпраўляць Богаслужбы ў святыні, але потым поўных радасці вярнуцца ў Святы Горад і аднавіць Храм? Рэхам адгукаюцца словы прарока, як ніколі актуальныя і для членаў гэтай Грамады: “Узмацніся сёння, увесь народ краіны, – гаворыць Пан, – і бярыцеся за працу, бо Я разам з вамі... Слава будучая гэтага дому будзе большая, чым ранейшая... і на месца гэтае Я дам мір” (Агг. 2, 4.9).

Славаю Касцёла, Высокашаноўны Брат, з’яўляецца Хрыстус Пан: Святар, Ахвяра і Храм Новага Запавету. Няхай гэтая падзея станецца для вернікаў так любай мне Краіны, што ідуць у напрамку Трэцяга Тысячагоддзя Хрысціянства, правідэнцыяльнаю нагодаю аднавіць імкненне быць “жывымі камянямі, і будаваць сабе дом духоўны, святарства святое, каб прыносіць духоўныя ахвяры, любасныя Богу праз Езуса Хрыста” (1 П 2,5).

Няхай новае асвячэнне Катэдры Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мінску нагадвае ўсім пра гэтае пакліканне і місію, і Дзева Маці Божая, Вобраз і Узор Касцёла, Зорка Евангелізацыі, няхай кіруе верным народам, каб ён здолеў адпавядаць Божым планам руплівасцю веры, надзеі і любові дзеля фармавання і суцяшэння кожнага чалавека добрай волі.



Высокашаноўны Брат! Падчас гэтых урачыстасцей Вы адзначаеце сваё 83-годдзе. Накіроўваю мае самыя шчырыя віншаванні і пажаданні! Сардэчна суправаджаю іх спецыяльным Апостальскім Блаславенствам, якое ўдзяляю таксама святарам, законнікам і законніцам ды вернікам ўсёй арцыдыяцэзіі.

*Ватыкан, 15 кастрычніка 1997 году*
*IOANNES PAULUS PP. II*

## *Do Czcigodnego Brata*
## *Kardynała KAZIMIERZA ŚWIĄTKA*
## *Arcybiskupa Mińska-Mohylewa*

Cieszę się, że mogę uczestniczyć – w osobie mego przedstawiciela Księdza Kardynała Edmunda C. Szoki – w ceremonii ponownej konsekracji katedry w Mińsku, a tym samym mieć udział w radości wiernych na Białorusi. Budowę tej świątyni pod wezwaniem Jezusa, Maryi i św. Barbary rozpoczęli w 1700 r. Ojcowie Jezuici. Po kasacie Towarzystwa Jezusowego stała się ona kościołem parafialnym, zaś w chwili erygowania w 1798 r. diecezji mińskiej, której pierwszym ordynariuszem był biskup Jakub Daderka, została wybrana na jej katedrę.

W 1951 r. reżim komunistyczny zamknął ją, zarekwirował i przekształcił między innymi w ośrodek wychowania fizycznego. Jak wiele innych świątyń w tym kraju także ona uległa wówczas profanacji, ale tajemniczym zrządzeniem Opatrzności nawet w ciągu długich lat prześladowań nie utraciła nigdy swego symbolicznego znaczenia dla Ludu Bożego.

W 1994 r., gdy dawna katedra została nareszcie zwrócona Wspólnocie katolickiej, Ksiądz Kardynał polecił natychmiast podjąć roboty remontowe. Trzeba było przeprowadzić rozległe i kosztowne prace, aby przywrócić budowli – w miarę możliwości – pierwotną świetność. Żarliwa troska, jaką Ksiądz Kardynał poświęcił temu dziełu przy poparciu wiernych i dobroczyńców, pozwoliła doprowadzić je do szczęśliwego końca. Gdy wspominamy te wydarzenia, na myśl przychodzą nam doświadczenia naszych Ojców z czasów Starego Przymierza: zostali oni wygnani z Syjonu i nie mogli sprawować kultu w świątyni, potem jednak powrócili pełni radości do świętego miasta i odbudowali swoje sanktuarium. Także dla członków waszej Wspólnoty niezwykle aktualne stały się słowa proroka: "Nabierz (...) ducha cały ludu ziemi! – wyrocznia Pana. Do pracy! Bo Ja jestem z wami. (...) Przyszła chwała tego domu będzie większa od dawnej, (...) na tym to miejscu Ja udzielę pokoju" (Ag 2, 4.9).

Chwała Kościoła, Czcigodny Bracie, jest Chrystus Pan: Kapłan, Ofiara i Świątynia Nowego Przymierza. Niech to wydarzenie stanie się dla wiernych waszego kraju, zmierzających ku trzeciemu tysiącleciu chrześcijaństwa, opatrznościową sposobnością, by na nowo stać się "niby żywe kamienie na budowę duchowej świątyni, by stanowić święte kapłaństwo, dla składania duchowych ofiar, przyjemnych Bogu przez Jezusa Chrystusa" (por. 1 P 2, 5).

Ponowna konsekracja katedry Matki Bożej w Mińsku niech przypomni wszystkim tę misję i to powołanie, a Bogurodzica Dziewica, wizerunek i wzorzec Kościoła, gwiazda ewangelizacji, niech będzie przewodniczką wiernego ludu, aby mógł odpowiedzieć na Boże zamysły żarliwą wiarą, nadzieją i miłością, dla zbudowania i pokrzepienia wszystkich ludzi dobrej woli.

Tobie, Czcigodny Bracie, który w tym uroczystym dniu będziesz także obchodził 83. urodziny, składam serdeczne gratulacje i najszczersze życzenia pomyślności. Pragnę dołączyć do nich specjalne Apostolskie Błogosławieństwo, którym ogarniam również kapłanów, osoby konsekrowane i wiernych całej Archidiecezji.

*Watykan, 15 października 1997 r.*
*IOANNES PAULUS PP. II*





# ГАМІЛІЯ
# Яго Эмінэнцыі ксяндза кардынала Казіміра Свёнтка ў часе рэкансэкрацыі Катэдры ў Мінску 21.10.1997г.

Эмінэнцыя, Найдастойнейшы спецыяльны Пасланнік Святога Айца Яна Паўла Другога. Эмінэнцыі, Эксцэленцыі, Апостальскі Візітатар Грэка-Каталіцкай Царквы на Беларусі. Шаноўныя прадстаўнікі дзяржаўнай і гарадской уладаў, спадар Амбасадар, дэкан дыпламатычнага корпусу, паважаныя святары, шаноўныя сёстры, умілаваны Люд Божы.

*"...бо дом мой домам малітвы названы будзе для ўсіх народаў, – гаворыць Пан Бог"*
*(Іс 56, 7)*

З вялікаю радасцю сабраліся мы сёння ў Катэдральным касцёле ў Мінску, каб удзельнічаць ва ўрачыстай рэкансэкрацыі гэтай святыні.

З усіх існуючых сёння касцёлаў у Мінску самы старэйшы і самы прыгожы – Катэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны. Запрошаныя ў 1656 годзе Мінскім ваяводам Геранімам Сангушкам, айцы езуіты распачалі будову касцёла 31 ліпеня 1700 года, якая працягвалася дзесяць гадоў.

У 1710 годзе 16 сакавіка, у другую нядзелю Вялікага Посту, Віленскі біскуп Канстанты Казімір Бжастоўскі здзейсніў кансэкрацыю гэтага касцёла.

Пасля ліквідацыі ў 1773 годзе закону езуітаў іх касцёл стаў парафіяльным, а пасля стварэння Мінскай дыяцэзіі дваццаць восьмага красавіка тысяча семсот дзевяноста восьмага года яму была нададзена годнасць Катэдральнага касцёла.

Аднак яшчэ да гэтага, у палове 1797 года касцёл быў знішчаны пажарам. Першы Мінскі біскуп Якуб Дадэрка аднавіў унутраны выгляд касцёла і ўпрыгожыў яго познебарокавай паліхроміяй.

З гісторыі Мінскай катэдры трэба прыгадаць, што з красавіка 1905 года пэўны час яе пробашчам быў ксёндз Зыгмунт Лазінскі, які пазней булаю Папы Бенедыкта XV ад 12.11.1917г. быў мянаваны біскупам Мінскай дыяцэзіі. Гэтыя функцыі ён выконваў да арышту ў 1920 годзе.

Катэдральны касцёл існаваў да 1948 года, да таго часу, калі быў забраны савецкімі ўладамі і перададзены спартыўнаму таварыству "Спартак" як "Дом фізкультуры".

У 1951 годзе касцёл быў цалкам спустошаны і перабудаваны. Унутры былі зроблены два паверхі, а звонку былі разбураны вежы і дабудаваны новы фасад. Такім чынам, будынак ужо нічым не напамінаў касцёла. Міжволі прыходзіць на памяць выказванне прарока Ярэмія:

*"І логавам разбойнікаў стаў дом гэты, у якім прызывалі імя маё перад вачыма вашымі"* (Яр 7, 11).

Пасля атрымання рэлігійнай свабоды пачаліся інтэнсіўныя намаганні католікаў Мінска, каб вярнуць сваю катэдру. Вы, вернікі Мінска, самі найлепей ведаеце і памятаеце, колькі цяжкай працы, колькі старанняў, колькі прыкрых перажыванняў трэба было вынесці, каб нарэшце вярнуць гэту святыню.

Eminencjo, Najdostojniejszy Specjalny Wysłanniku Ojca Św. Jana Pawła II. Eminencje, Ekscelencje, Wizytatorze Apostolski Greko-Katolickiego Kościoła na Białorusi. Dostojni Przedstawiciele Władz państwowych i miejskich, Panie Ambasadorze, Dziekanie Korpusu Dyplomatycznego, Czcigodni Księża, Wielebne Siostry, Drogi Ludu Boży,

*"...bo dom mój domem modlitwy nazwany będzie dla wszystkich narodów – mówi Pan Bóg".*
*(Iz 56, 7)*

Z ogromną radością i wielką satysfakcją zgromadziliśmy się dzisiaj w Kościele Katedralnym w Mińsku, by uczestniczyć w uroczystej rekonsekracji tej świątyni.

Z istniejących dotychczas kościołów w Mińsku najstarszym i najokazalszym jest Kościół Katedralny pod wezwaniem Imienia Najświętszej Maryi Panny. Sprowadzeni w 1656 roku przez wojewodę mińskiego, Hieronima Sanguszkę, Ojcowie Jezuici rozpoczęli budowę kościoła 31 lipca 1700 r., która trwała 10 lat. W 1710 r. w drugą niedziele Wielkiego Postu – 16 marca – biskup wileński Konstanty Kazimierz Brzostowski dokonał konsekracji tego kościoła. Po kasacji w 1773 r. zakonu OO. Jezuitów ich kościół stał się parafialnym, a po utworzeniu diecezji mińskiej otrzymał 28 kwietnia 1798 roku tytuł kościoła katedralnego. Przedtem jednak w połowie 1797 roku kościół uległ pożarowi, ale pierwszy biskup miński Jakub Dederko odnowił wnętrze kościoła i ozdobił je polichromią późnobarokową. Z dziejów Katedry Mińskiej trzeba wspomnieć, że z kwietnia 1905 r. przez pewien czas proboszczem katedry był Ks. Zygmunt Łoziński, który później bullą papieża Benedykta XV z dn. 12.11.1917 r. został mianowany biskupem diecezji mińskiej. Funkcję tę sprawował do aresztowania w 1920 roku.

Kościół Katedralny trwał do roku 1948, kiedy to został zabrany przez władze sowieckie i przekazany stowarzyszeniu sportowemu "Spartak", jako "Dom fizkultury". W 1951 roku kościół został kompletnie zdewastowany i gruntownie przebudowany. Wewnątrz utworzono dwa piętra, a na zewnątrz usunięto wieże i dodano nową fasadę. W ten sposób budynek już w niczym nie przypominał kościoła. Mimo woli przychodzi na pamięć wypowiedź proroka Jeremiasza:

*"A więc jaskinią zbójców stał się ten dom, w którym wzywano imienia mego przed oczyma waszymi".* Jr 7, 11.

Po odzyskaniu wolności religijnej rozpoczęły się intensywne starania katolików Mińska o zwrot Katedry Mińskiej. Wy, wierni Mińska, sami najlepiej wiecie i pamiętacie, ile trudu, ile znoju, ile starań, ile przykrych i ciężkich doświadczeń trzeba było przenieść, by nareszcie odzyskać tę świątynię. I oto uchwałą Rady Ministrów Republiki Białoruś z dn. 9 grudnia 1993 r. budynek Katedry Mińskiej postanowiono zwrócić katolikom Mińska. Po trwających jeszcze przez pewien czas przetargów z dotychczasowymi "lokatorami" dn. 5 lutego 1994 r. po wstępnym poświęceniu świątyni już we wnętrzu na parterze odprawiłem

І вось пастановаю Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 9 снежня1993 года будынак Мінскай катэдры было вырашана вярнуць католікам Мінска. Яшчэ пэўны час працягваліся спрэчкі з ранейшымі "пастаяльцамі", але 5 лютага 1994 года пасля папярэдняга пасвячэння святыні ўжо ўнутры на першым паверсе я адправіў Святую Імшу, а звонку на франтоне катэдры быў устаноўлены крыж.

Якім шчасцем свяціліся вочы шматлікіх сабраных тут вернікаў, колькі было слёз радасці! Справядлівасць перамагла! Перамагла справа Божая! Зразумела, гэта быў першы крок у вернутую катэдру.

Перад намі паўстаў вялікі абавязак аднаўлення катэдры і менавіта такой, якою яна была да знішчэння.

*"бо дом мой домам малітвы названы будзе для ўсіх народаў, – гаворыць Пан Бог"*(Іс 56, 7).

Як арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, я прысягнуў Люду Божаму, што Мінская катэдра будзе адбудавана і ўзноўлена менавіта ў першапачатковым сваім выглядзе.

І ўжо 16 жніўня 1994 года распачаліся рэстаўрацыйныя працы, якія вяла Замойская Майстэрня Кансэрвацыі Помнікаў з Польшчы "REHABIT", у супрацоўніцтве з Беларускім Камітэтам Аховы Помнікаў. Працы гэтыя працягваліся тры гады і два месяцы да 16.10.1997г.

Слова сваё я стрымаў, абяцанне выканаў: Мінская катэдра адбудавана і адноўлена. Дзякуй Табе, Божа!

І вось настаў дзень 21 кастрычніка 1997 года – дзень урачыстай рэкансэкрацыі Мінскай катэдры, ужо адбудаванай і адноўленай.

О Божа, які ж Ты добры! – ўзнаўленне Мінскай катэдры – гэта справа не наша, людзей слабых і бедных, але справа Твая, Божа Усемагутны і міласэрны. Ты блаславіў нас, дапамагаў нам, даваў нам сілы і вытрымку. Гэта Ты, Божа, здзейсніў сапраўды цуд вяртання першапачатковага аблічча знішчанай катэдры.

О Маці Божая Будслаўская, Апякунка Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, як жа Ты клапацілася пра нас, калі мы працавалі на адбудове катэдры, што носіць Імя Найсвяцейшай Марыі Панны.

О Слуга Божы, біскупе Зыгмунце Лазінскі, ты заўсёды быў і застаешся добрым нашым прыяцелем, як і абяцаў у сваім тэстамэнце. Тваё дзейснае заступніцтва пастаянна адчувалася пры адбудове катэдры, у якой ты быў душпастырам тры гады ў вельмі цяжкія часы.

Ойча Святы, Ян Павел Другі, які ты ласкавы! Гэта твая айцоўская памяць і ахвярная дапамога паспрыялі аднаўленню Мінскай катэдры. Як жа мы ўдзячны табе, умілаваны Ойча, што ты прыслаў на рэкансэкрацыю нашай святыні свайго спецыяльнага Пасланніка, Яго Эмінэнцыю Ксяндза кардынала Эдмунда Казімежа Шоку.

О людзі добрай волі, якія вы зычлівыя! – Гэта вы, на Беларусі, і вы, ў блізкіх і далёкіх краях, паспяшылі да нас з дапамогаю, якая пасадзейнічала нам выканаць адбудову нашай катэдры. Удзячнасць сваю мы будзем выказваць вам, пастаянна памятаючы пра вас у нашых малітвах.

Пасля цяжкіх і балючых выпрабаванняў у гады пераследванняў настаў час рэлігійнай свабоды і Каталіцкі Касцёл на Беларусі распачаў аднаўленне веры і рэлігійна-касцёльнага жыцця. Дзякуючы ўжо сямігадовай душпастырскай, катэхізацыйнай і евангелізацыйнай працы Касцёл адраджаецца і актыўна абвяшчае і прапаведуе хрысціянскую веру па ўсей Беларусі.

Менавіта Мінская катэдра, адбудаваная і ўзноўленая ў сваім цудоўным архітэктурным выглядзе – гэта відочны і яскравы знак адраджэння Каталіцкага Касцёла на Беларусі.

Няхай толькі ўжо ніколі больш варожая рука не замахнецца на гэты адноўлены велічны Дом Божы, на гэты каштоўны помнік архітэктуры ў сталіцы Беларусі.

Катэдра Мінская, Маці ўсіх касцёлаў на Беларусі, будзь заўсёды непарушным і трывалым цэнтрам хрысціянскай веры і культуры на хвалу Божую і на збаўленне душ людскіх.

***Кардынал Казімір Свёнтэк***

Mszę świętą, a na zewnątrz na frontonie katedry umieszczono krzyż.

Jaki był błogi uśmiech na twarzach licznie zgromadzonych wiernych, jak lśniały oczy weselem, ile było łez radości! Sprawiedliwości stało się zadość. Sprawa Boża zwyciężyła!

Oczywiście to był pierwszy krok do wnętrza odzyskanej katedry. Przed nami wstał ogromny trud wznowienia Katedry i to takiej, jaką ona była do zdewastowania.

*"bo dom mój domem modlitwy nazwany będzie dla wszystkich narodów – mówi Pan Bóg".*

Iz 56, 7

Ja, jako Arcybiskup Metropolita Mińsko-Mohylewski, przyrzekłem Ludowi Bożemu, że Katedra Mińska będzie odbudowana i wznowiona i to w pierwotnym swym stanie.

I już 16 sierpnia 1994 roku rozpoczęły się prace restauracyjne, prowadzone przez Zamojskie Pracownie Konserwacji Zabytków "REHABIT" (Polska), przy współpracy z Białoruskim Komitetem ochrony zabytków, które trwały trzy lata i dwa miesiące do dnia 16.10.1997 roku.

Przyrzeczenia dotrzymałem, obietnicę wypełniłem: Katedra Mińska odbudowana i wznowiona. Bogu niech będą dzięki!

I oto nadszedł dzień 21 października 1997 roku – dzień uroczystej rekonsekracji Katedry Mińskiej, już odbudowanej i wznowionej.

O Boże, jakiś Ty dobry! – wznowienie Katedry Mińskiej to nie dzieło nas, ludzi słabych i biednych, ale dzieło Twoje, Boże Wszechmocny i miłosierny. Błogosławiłeś nam, wspierałeś nas, dawałeś nam siłę, wytrwałość. To Ty, Boże, dokonałeś wprost cudu przywrócenia zdewastowanej Katedrze jej pierwotnego oblicza.

O Matko Boska Budsławska, Patronko Archidiecezji Mińsko-Mohylewskiej, jakaś Ty była troskliwa o nas w naszych trudach przy odbudowie Katedry, która przecież nosi tytuł Twego Najświętszego Imienia.

O Sługo Boży Biskupie Zygmuncie Łoziński, Wspaniały przyjacielu zza grobu, jak to obiecałeś w swym testamentowym liście. Twe skuteczne wstawiennictwo stale było odczuwalne w odbudowie Katedry, w której pasterzowałeś trzy lata w bardzo ciężkich czasach.

O Ojcze Święty, Janie Pawle II, jakiś Ty łaskawy! – To Twoja ojcowska pamięć i ofiarna pomoc sprawiły, że dokonaliśmy dzieła wznowienia Katedry Mińskiej. A jakże jesteśmy wdzięczni Tobie, Ojcze Ukochany, że przysłałeś na rekonsekrację naszej Katedry Swego Specjalnego Wysłannika, Jego Eminencję Księdza Kardynała Edmunda Kazimierza Szokę.

O ludzie dobrej woli, jacy wy życzliwi! – To Wy na Białorusi i Wy w bliskich i dalekich krajach pośpieszyliście nam z pomocą, dzięki której ułatwiliście nam wykonanie odbudowy naszej Katedry. Wdzięczność naszą będziemy Wam okazywać przez ciągłą pamięć o Was w naszych modlitwach.

Po ciężkich i bolesnych doświadczeniach w latach prześladowań, nadszedł czas wolności religijnej i Kościół Katolicki na Białorusi rozpoczął odnowę wiary i życia religijno-kościelnego. Dzięki już siedmioletniej pracy duszpasterskiej, katechizacyjnej i ewangelizacyjnej Kościół odradza się i stał się aktywnym głosicielem i wykładnikiem wiary chrześcijańskiej na całej Białorusi.

Właśnie Katedra Mińska, odbudowana i wznowiona w przepięknej swej postaci architektonicznej zewnątrz i wewnątrz jest widzialnym i wymownym znakiem odradzającego się Kościoła Katolickiego na Białorusi.

Niech już tylko nigdy więcej wroga ręka nie targnie się na ten wznowiony, okazały Dom Boży, jak też cenny i wspaniały zabytek architektury w Mińsku, stolicy Białorusi.

Katedro Mińska, Matko wszystkich kościołów na Białorusi, bądź na zawsze nienaruszalnym i trwałym centrem wiary i kultury chreścijańskiej ku chwale Bożej i zbawieniu dusz ludzkich.

***Kazimierz Kardynał Świątek***





# А К Т
## РЭКАНСЭКРАЦЫІ КАТЭДРАЛЬНАГА КАСЦЁЛА ІМЯ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ МАРЫІ ПАННЫ Ў МІНСКУ

Дня 21 кастрычніка Году Панскага 1997 на XX годзе пантыфікату Папы Яна Паўла II, калі Апостальскім нунцыем у Рэспубліцы Беларусь быў арцыбіскуп *Дамінік Грушоўскі*, а арцыбіскупам Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім кардынал *Казімеж Свёнтэк*, у прысутнасці спецыяльнага Пасланніка Святога Айца Яна Паўла II кардынала *Эдмунда Казімежа Шокі* рэкансэкрацыю Катэдральнага касцёла Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мінску здзейсніў Яго Эмінэнцыя ксёндз кардынал *Казімеж Свёнтэк* з удзелам Іх Эмінэнцый кардыналаў *Юзэфа Глемпа*, Прымаса Польшчы і *Гэнрыка Гульбіновіча*, Мітрапаліта Вроцлаўскага; Іх Эксцэленцый арцыбіскупаў: *Мар'яна Яворскага*, Мітрапаліта Львоўскага, *Яніса Пуятса*, Мітрапаліта Рыжскага, *Тадэвуша Кандрусевіча*, Апостальскага Адміністратара для католікаў еўрапейскай часткі Расіі; Іх Эксцэленцый біскупаў: *Аляксандра Кашкевіча*, біскупа Гродзенскай дыяцэзіі, *Паулё Джылле*, біскупа суфрагана дыяцэзіі Альбано, прадстаўніка Яго Эмінэнцыі кардынала Каміллё Руіні, Генеральнага Вікарыя Яго Святасці Рымскай дыяцэзіі, *Мар'яна Трафімяка*, біскупа суфрагана Львоўскай дыяцэзіі, *Ёзаса Тунайціса*, біскупа суфрагана Віленскага; шматлікіх святароў і законных сясцёр з Беларусі і сабраных тут вернікаў.

Dnia 21 października Roku Pańskiego 1997 w XX roku pontyfikatu Papieża Jana Pawła II, kiedy Nuncjuszem Apostolskim w Republice Białoruś był Arcybiskup Dominik Hrušowski, a Arcybiskupem Metropolitą Mińsko-Mohylewskim Kardynał Kazimierz Świątek w obecności Specjalnego Wysłannika Ojca Świętego Jana Pawła II Kardynała Edmunda Kazimierza Szoki rekonsekracji Kościoła Katedralnego p/w Imienia Najświętszej Maryi Panny w Mińsku dokonał Jego Eminencja Ksiądz Kardynał Kazimierz Świątek z udziałem Ich Eminencji Kardynałów: Józefa Glempa, Prymasa Polski i Henryka Gulbinowicza, Metropolity Wrocławskiego; Ich Ekscelencji Arcybiskupów: Mariana Jaworskiego, Metropolity Lwowskiego, Janisa Pujatsa, Metropolity Ryskiego, Tadeusza Kondrusiewicza, Administratora Apostolskiego dla katolików europejskiej części Rosji; Ich Ekscelencji Biskupów: Aleksandra Kaszkiewicza, Biskupa diecezjalnego Grodzieńskiego, Paulo Gillet, Biskupa pomocniczego diecezji Albano, przedstawiciela J. Em. Kardynała Kamillo Ruiniego, Wikariusza Generalnego Jego Świątobliwości diecezji Rzymskiej, Mariana Trofimiaka, Biskupa pomocniczego diecezji Lwowskiej, Juozasa Tunajtisa, Biskupa pomocniczego Wileńskiego; licznych Kapłanów i Sióstr zakonnych z Białorusi, oraz wielkich rzesz wiernych.

Powyższy akt rekonsekracji potwierdzają poniższe podpisy:







## Кардынал Эдмунд Казімір ШОКА, спецыяльны Пасланнік Святога Айца Яна Паўла II на рэкансэкрацыю Мінскай катэдры

Дарагія браты і сёстры ў Хрысце! Я хацеў бы дадаць некалькі слоў ад сябе, а менавіта свае асабістыя найлепшыя пажаданні і віншаванні Яго Эмінэнцыі кардыналу Казіміру Свёнтку і ўсім вам, вернікам мясцовага касцёла ў сувязі з новым пасвячэннем вашай улюбёнай катэдры. На працягу сарака пяці гадоў вы былі без катэдры. Цяпер, нарэшце, дзякуй Богу, вы зноў маеце гэту цудоўную святыню. Для мяне гэта асаблівы гонар, што я магу прадстаўляць нашага Святога Айца ў гэты гістарычны момант. Гэта для мяне таксама вельмі асабістае перажыванне, бо мой бацька нарадзіўся на Беларусі, у Індурскай парафіі Найсвяцейшай Тройцы. Я меў шчасце наведаць Беларусь раней ужо двойчы — у 1991г. і 1995г. Перад гэтым візітам асабіста размаўляў з Яго Святасцю, і ён пераказаў вам сваю вялікую любоў і павагу, а таксама свае самыя сардэчныя пачуцці да вас. Ён заўсёды носіць вас у сваім сэрцы і вельмі часта, калі мы сустракаемся, ён успамінае Беларусь. Я ганаруся і адчуваю сябе шчаслівым, што сёння я магу быць сярод вас і маю надзею, што Пан дасць мне магчымасць прыехаць сюды калі-небудзь зноў.

А цяпер маю вялікі гонар перадаць кардыналу Свёнтку асабістыя дары Святога Айца для вашай адноўленай катэдры: гэта залаты келіх і арнат. Няхай яны застануцца тут як знак духовага яднання Святога Айца з вамі ў гэты дзень.





## Кардынал Юзаф ГЛЕМП, Прымас Польшчы

Эмінэнцыі, Эксцэленцыі, духавенства, шаноўныя свецкія, браты і сёстры!

Узнёслыя муры катэдральнай святыні, на многія гады гвалтоўна дастасаваныя для спорту, сёння, як бачым, вярнулі сваю цудоўную форму і могуць служыць хвале Бога. Вяртанне да хараства азначае вяртанне да Бога, які з'яўляецца не толькі поўнаю існасцю, дабром, праўдаю, але і хараством. Бог набліжаецца да чалавека праз прыроду, Біблію і Сакраманты. Чалавек набліжаецца да Бога праз узрастанне чалавечай годнасці. Адбываецца ж гэта праз веру, малітву і культуру. Культуру стварае чалавек, дасканалячы кожную галіну жыцця. Таму мы гаворым пра культуру сельскагаспадарчую, фізічную, пра культуру мастацкую і духоўную. Не можа фізічная культура проціпастаўляцца культуры духа, бо адна і другая ўзвышаюць развіццё чалавека і яго годнасць. Усе культуры, якія развівае чалавек, могуць выявіцца ў малітве, якая яднае чалавека з Богам. Напрыканцы гэтага стагоддзя, калі ў свеце адбываюцца вялікія перамены, Біблія, і асабліва Евангелле, вельмі вымоўна прамаўляе да людзей, нагадваючы ім, што з'яўляецца Добраю Весткаю, якая праз любоў, справядлівасць, дары развівае чалавека ў гаспадарчай, палітычнай і культурнай галінах.

Я жадаю кардыналу Свёнтку і ўсім жыхарам Мінска, католікам і праваслаўным, вернікам іншых веравызнанняў і няверуючым, каб наноў пасвечаная каталіцкая катэдра была месцам хвалы Бога, а таксама месцам, дзе людзі будуць маліцца, вучыцца ўзаемапавазе, вучыцца будаваць мір і лад ва ўсёй Беларусі.









Паулё ДЖЫЛЕ,
біскуп суфраган дыяцэзіі Альбано, прадстаўнік Яго Эмінэнцыі кардынала Каміллё Руіні, генеральнага вікарыя Яго Святасці Рымскай дыяцэзіі

Эмінэнцыі, эксцэленцыі, шаноўныя прадстаўнікі ўрада Рэспублікі Беларусь і горада Мінска, дарагія браты і сёстры!

Ад імя кардынала Каміллё Руіні і ад свайго імя вітаю і віншую ўсіх з рэкансэкрацыяй катэдры, з цудоўнаю падзеяй у жыцці каталіцкага Касцёла на Беларусі.

Вялікі дзякуй ксяндзу кардыналу Свёнтку і ў яго асобе ўсім, хто яднаецца як супольнасць веры, за вялікі дар, які атрымліваем усе мы, атрымлівае не толькі мясцовы касцёл, але і ўвесь паўсюдны Касцёл. Гэта дар для ўсіх нас, дар, які перадаецца праз веру.

Дзякую, Эмінэнцыя, дзякую ўсім тут прысутным, дзякую ўсім братнім Цэрквам, успамінаючы перадусім наступніка святога Пятра, які вядзе Касцёл, заўсёды ўказваючы збаўленне.

Архімандрыт Сергій ГАЕК,
Апостальскі Візітатар Грэка-Каталіцкай Царквы на Беларусі

Эмінэнцыі, Эксцэленцыі, вялебныя айцы, дарагія браты і сёстры!

Кансэкрацыя, асвячэнне Катэдры — гэта асаблівае свята ў жыцці памеснай Царквы, партыкулярнага Касцёла.

Ад грэка-католікаў Беларусі я хачу павіншаваць Яго Эмінэнцыю кардынала Казіміра Свёнтка і Мінска-Магілёўскую архідыяцэзію з гэтым святам. Гэта відавочны знак, як кроў пакутнікаў і малітвы вернікаў выдаюць плён. Як дар, мы прыносім на рукі Яго Эмінэнцыя ладан, кадзіла, якое прыходзіць з Святой Зямлі. Хай будзе яно знакам нашай удзячнай малітвы.

Пасланне ФІЛАРЭТА,
Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха Усяе Беларусі
прачытаў
пратаерэй Генадзь Дзічкоўскі

У пасланні гаворыцца:

"Ваша Эмінэнцыя, дарагі ў Хрысце брат Казімір кардынал Свёнтэк! Сардэчна віншую Вас і ўсіх вернікаў Каталіцкай Царквы на Беларусі са святам асвячэння катэдральнага Сабора ў імя Прасвятой Дзевы Марыі. Гэтая падзея ў жыцці Вашай Царквы, як падобныя падзеі ў Царкве праваслаўнай, сведчыць аб рэальным адраджэнні духоўнага жыцця ў нашай Рэспубліцы. Мы, праваслаўныя і католікі, перакананы ў тым, што ніякія, самыя прагрэсіўныя эканамічныя рэформы, ніякія самыя лепшыя заканадаўчыя акты не здолеюць вывесці нашае грамадства з таго глыбокага крызісу, у якім яно знаходзіцца. Таму што карані гэтага крызісу, гэтай хваробы — у духоўнай сферы нашага жыцця. І таму выйсце з гэтага стану павінна пачынацца з духоўнага адраджэння і суправаджацца сур'ёзным зваротам да евангельскіх запаведзяў і іх захавання. Сёння мы бачым, як у грамадскай свядомасці павольна, але рэальна пачынаецца зварот да Закону Гасподняга.

У гэты дзень сардэчна віншую Вас, Ваша Эмінэнцыя ксёндз Кардынал, з днём нараджэння і з цудоўным для Вас дарам міласці Божай — аднаўленнем катэдральнага храма. Хачу пажадаць Вам, каб у гэтым адноўленым храме няспынна ўзносілася малітва за мір ва ўсім свеце і за дабрабыт нашай Бацькаўшчыны.

*З братняй у Хрысце любоўю Філарэт, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх Усяе Беларусі.*





## Аляксандр БІЛЫК, старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў

...Прысутнасць на гэтай урачыстасці Пасланніка Святога Айца Яна Паўла II кардынала Эдмунда Шокі — яскравае сведчанне таго, як высока ацэньвае Святая Сталіца дзейнасць Рымска-Каталіцкага Касцёла на Беларусі і мітрапаліта Мінска-Магілёўскага Казіміра Свёнтка асабіста.

Спадзяюся, што гэтае сведчанне — прызнанне тых карэнных пераменаў, якія адбыліся ў Беларусі, у тым ліку і ў дзяржаўна-царкоўных адносінах. Адыход ад палітыкі і дзяржаўнага атэізму, прыняцце новай Канстытуцыі РБ, закона РБ аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацыях, іншых заканадаўчых актаў стварылі неабходныя ўмовы для ажыццяўлення кожным грамадзянінам права на свабоду веры ў адпаведнасці з міжнародным пактам аб правах чалавека на свабоду дзейнасці ўсіх рэлігійных дэнамінацый. Пра гэта сведчаць такія факты: за мінулыя 6 гадоў павялічылася колькасць рэлігійных абшчын усіх веравызнанняў. Рымска-каталіцкіх — амаль у 3,5 раза: сёння іх налічваецца больш за 390. У Беларусі дзейнічаюць 3 епархіі, Вышэйшая духоўная семінарыя, манаскія аб'яднанні, кангрэгацыі святых сясцёр з Назарэта, дабрачынная арганізацыя Caritas. За гэты час рымска-каталіцкім абшчынам перададзена больш за 200 храмаў, шмат іншых памяшканняў. Касцёлы на Беларусі абслугоўваюць 205 святароў, з іх 134 — замежныя. Безумоўна, ёсць у Касцёла свае цяжкасці і праблемы, не хапае святароў, храмаў, немалыя сродкі патрабуюцца на рамонт і рэстаўрацыю касцёлаў. Такія ж праблемы ў вернікаў іншых канфесій. З цягам часу яны, безумоўна, будуць вырашаны.

Дазвольце мне ад шчырага сэрца пажадаць усім прысутным на сённяшняй урачыстасці моцнага здароўя, добрага плёну на ніве духоўнага адраджэння і ўсталяванні хрысціянскіх каштоўнасцяў, ва ўмацаванні міжканфесійнай згоды на Беларусі.

Дазвольце таксама ў гэты ўрачысты дзень павіншаваць асабіста паважанага кардынала Казіміра Свёнтка з днём нараджэння і пажадаць шчасця, здароўя, даўгалецця.

### *СЛОВА ПАДЗЯКІ*
### *Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Свёнтка*

Заканчваючы гэту важную і цудоўную ўрачыстасць рэкансэкрацыі Катэдральнага касцёла Імя Найсвяцейшай Марыі Панны ў Мінску, з радасцю і задавальненнем можам канстатаваць, што мы былі ўдзельнікамі гістарычнай падзеі ў жыцці Каталіцкага Касцёла на Беларусі, як і ў жыцці беларускага народа. Дзякуем Пану Богу за гэту вялікую ласку вяртання і адбудовы Мінскай катэдры.

З прыемнасцю хачу выказаць самыя шчырыя словы падзякі ўсім, хто ўдзельнічаў у гэтай урачыстасці. Мая асаблівая ўдзячнасць Святому Айцу за яго пасланне, за тое, што ён дэлегаваў свайго спецыяльнага Пасланніка на рэкансэкрацыю Мінскай катэдры. Мае самыя сардэчныя словы ўдзячнасці Яго Эмінэнцыі ксяндзу кардыналу Эдмунду Казімежу Шоку за выкананую місію спецыяльнага Папскага Пасланніка. Шчыра дзякую Іх Эмінэнцыям кардыналам і Іх Эксцэленцыям арцыбіскупам і біскупам за ўдзел у гэтай урачыстасці. Шчыра дзякую Яго Эксцэленцыі Апостальскаму нунцыю ў Рэспубліцы Беларусь. Дзякую вялебнаму Апостальскаму візітатару Грэка-Каталіцкай Царквы на Беларусі. Дзякую прадстаўніку Яго Высокапраасвяшчэнства Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. Дзякую дастойнаму прадстаўніку дзяржаўнай улады. Дзякую ўсім святарам, законным сёстрам за супольную малітву ў часе рэкансэкрацыі Катэдры. Сардэчна дзякую ўсім сабраным тут верным за малітоўна перажытую рэкансэкрацыю Катэдры. Дзякую хору з Полацку за цудоўныя спевы ў часе сённяшняй урачыстасці. Карыстаючыся выпадкам, хачу выказаць сардэчную падзяку ўсім святарам, вернікам, ахвярадаўцам на Беларусі і за мяжой, – усім людзям добрай волі, якія прычыніліся да вяртання Мінскай катэдры і яе адбудовы. Асаблівую ўдзячнасць хачу выказаць выканаўцам рэстаўрацыі Мінскай катэдры – Замойскай Майстэрні Кансэрвацыі Помнікаў з Польшчы "REHABIT" на чале з панам архітэктарам Віктарам Вількам, пану прафесару Віктару Зіну з Кракава за яго навуковае шэфства ў адбудове, а таксама спадару Дмітрыю Бубноўскаму, начальніку інспекцыі па ахове помнікаў гісторыі і культуры за супрацоўніцтва.

Мінскую Катэдру, вернутую, адбудаваную і рэкансэкраваную ў восемдзесят трэцюю гадавіну майго нараджэння складаю ў дар Люду Божаму і сталіцы Беларусі – Мінску.

Божа, заплаці! Божа благаславі вас усіх!









## *СЛОВЫ ПАДЗЯКІ СВЯТОМУ АЙЦУ*

Сёння, у аўторак, 21 кастрычніка 1997 года ў прысутнасці найдастойнейшага кардынала Эдмунда Шокі, спецыяльнага Пасланніка Святога Айца, Арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі і Мітрапаліт Беларусі рэкансэкраваў адноўленую Мінскую Катэдру, якой была вернута яе першасная функцыя і яе старажытная прыгажосць. Сабраныя пры легаце Святога Айца, кардыналы, арцыбіскупы, біскупы разам з духавенствам і вернікамі з усяе краіны, з Айцом Святым, прысутным у асобе Яго спецыяльнага Пасланніка, праз айцоўскае пасланне, праз каштоўныя дары: келіх, патэну і арнат, і праз асаблівае благаславенне, перасылаюць сыноўнія прывітанні, выказваюць глыбокую ўдзячнасць, павагу і вернасць, запэўніваючы ў малітве, абавязваючыся ажывіць аднoўленую Катэдру з новым натхненнем у сувязі з юбілеем 2000 Году, і просяць айцоўскага Апостальскага благаславення.

*Кардынал Казімір Свёнтэк,*
*Арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі*

## *PODZIĘKOWANIE OJCU ŚWIĘTEMU*

Dzisiaj, we wtorek 21 października 1997 w obecności najdostojniejszego Kardynała Edmunda Szoki, specjalnego Wysłannika Ojca Świętego, Arcybiskup mińsko-mohylewski i Metropolita Białorusi rekonsekrował odnowioną Katedrę mińską, przywróconą do swej pierwotnej funkcji w odzyskanym starym pięknie. Skupieni przy Legacie Ojca Świętego Kardynałowie, Arcybiskupi i Biskupi razem z duchowieństwem i wiernymi z całego kraju, z Ojcem Świętym obecnym w osobie Jego specjalnego wysłannika, przez ojcowskie orędzie, przez cenne dary w postaci Kielicha z pateną i ornatu, i przez szczególne błogosławieństwo, przesyłają synowskie pozdrowienia, wyrażają głęboką wdzięczność, szacunek i wierność, zapewniając o modlitwie, zobowiązując się ożywić odnowioną Katedrę z nowym zapałem z uwagi na jubileusz 2000, proszą o ojcowskie błogosławieństwo Apostolskie.

*Kazimierz Kardynał Świątek*
*Arcybiskup Metropolita mińsko-mohylewski*

Інфармацыйны бюлетэнь
**"Каталіцкія навіны"** № 11 (27) 1997
Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі
Рыма-Каталіцкага Касцёла
Рэдакцыйная Рада
Зарэгістравана
ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйны № 686.
Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 22.11.97.
Фармат 62 1/8.
Друк. арк. 1,5. Наклад 5000 экз. Зак. 3.
Адрас рэдакцыі: 220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9,
факс: (0172) 26-90-92.
Катэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Марыі Панны.
Надрукавана ў друкарні "НЭСІ",
г.Мінск, вул.Жодзінская, 18.